ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 53(5235)
Аўторак, 15 мая 2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Можа абыдземся без уступных экзаменаў?

*Ірына Расціславаўна Байтаз, дырэктар сярэдняй школы № 6 Маладзечна, была першай, хто згадзіўся паразважаць, пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў краіны. Фактычна яна адкрыла ў нашай газеце новую рубрыку. ("Дзённыя зоркі", "НГ" № 23 ад 24 лютага). Аднак адзін "кавалачак" з той нашай доўгай размовы выпаў, застаўся на дыктафоне. І я прапаную вам яго сёння.*

"Я вельмі часта думаю: чаму мы такія неміласэрныя да сваіх вучняў на ўступных экзаменах? Сарамліва маўчым пра тое, што ўся гэтая цераспалосіца фактычна ідзе ад вышэйшых навучальных устаноў. Яны — князькі ў сваёй вотчыне. Пра гэта пакуль маўчыць міністэрства. Пра гэта пакуль баімся гаварыць мы, дырэктары школ.

Чатыры гады таму мне давялося пабываць у Злучаных Штатах Амерыкі. У гэтай краіне якасць сярэдняй адукацыі значна ніжэйшая за нашу, але вось здароўя ў дзяцей і радасці ў жыцці ад наведвання школы значна болей. Я была ў чатырох штатах. У амерыканскіх чыноўнікаў тады цікавілася, як іх дзеці паступаюць у навучальныя ўстановы? У мяне складвалася ўражанне, што мяне не разумеюць. Справа ў тым, што у іх няма ўступных экзаменаў! У іх ёсць рэкамендацыя школы і конкурс атэстатаў. І чым больш прэстыжная навучальная ўстанова, тым больш прэстыжныя і дакументы аб заканчэнні, хоць бал атэстата можа быць і невысокі. Калі якасць ведаў высокая — выпускнік канкурэнтаздольны. Здаўшы выпускныя экзамены, вучань адпачывае. У яго ёсць атэстат, з якога ён зняў копію.

Дык чаму б і нам не даць такую магчымасць нашым выпускнікам — здымаць копіі з атэстатаў. Тады вучань будзе мець магчымасць паступаць адразу ў некалькі вышэйшых навучальных устаноў. Дарэчы, у мінулым годзе ў нашай краіне ў прэстыжныя навучальныя ўстановы такая сістэма ўступных экзаменаў дзе-нідзе пачала спрацоўваць. І яе неабходна адрэгуляваць, уступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы уніфікаваць. Недзе, можа, іх увогуле адмяніць, напрыклад, у тых навучальных установах, дзе рыхтуюць кадры, якіх сёння недахоп (у школе ў тым ліку) — тых жа інжынерна-тэхнічных работнікаў, выкладчыкаў замежных моў і інш.

Я працую ў школе дваццаць пяць гадоў, але не ведаю, як сёння ва ўмовах спецшколы падрыхтаваць выпускніка да экзамену ў вышэйшую навучальную ўстанову. У мяне выпускны адзінаццаты клас, які распадаецца на дзве часткі. Я выконваю праграму спецшколы, стандартны заказ на выпускны экзамен. І ў мяне ёсць дадатковы факультатыў, на якім я рыхтую аднаго — у БДУ, другога — у лінгвістычны універсітэт, трэцяга — у эканамічны інстытут. Бо на розных факультэтах БДУ — розныя патрабаванні на экзаменах. Але гэта ў мяне, вопытнага спецыяліста, столькі індывідуальных праграм! А калі малады спецыяліст? Давайце глянем праўдзе ў вочы: рэпетытарства — прыгожае слова, якім мы прыкрываемся! А на самай справе гэта не што іншае, як завуаліраваны хабар. Бо часам нават мы, настаўнікі, раім бацькам наняць рэпетытара з той вышэйшай навучальнай установы, куды мае намер паступаць іх сын ці дачка. І фактычна бацькі плацяць грошы рэпетытару за тое, што ён раскрывае абітурыенту "тайну" ВНУ, тыя "лавушкі" ў тэстах, якія чакаюць выпускніка. Дык глянем жа праўдзе ў вочы".

**Падрыхтавала Святлана БЕНЬ.**



У Рэспубліканскім цэнтры радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне адкрылася аддзяленне дзіцячай анкагематалогіі.

НА ЗДЫМКУ: у холах аддзялення пацыентам утульна і камфортна.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

## Колькі дзён у годзе бывае шчаслівым выхавацель?

***Вырашыла падзяліцца сваімі думкамі наконт таго, колькі дзён у годзе бывае шчаслівым выхавацель дзіцячага садка. Сярод маіх калег можна часта пачуць такія словы: "Чалавек тады шчаслівы, калі раніцай з задавальненнем спяшаецца на працу, а вечарам — дамоў". Ён спяшаецца, але з думкамі зусім не радаснымі.***

...На працы зноў пастаўлена звыштэрміновая задача, якую трэба вырашаць за кошт уласнага кашалька: стварыць у групе прадметна-гульневае асяроддзе на ўзроўні сучасных патрабаванняў. Прыйдзецца тэрмінова арганізоўваць бацькоўскі сход, з імпэтам расказваць, які вучэбна-выхаваўчы працэс можна наладзіць у садку, калі бацькі купяць новыя цацкі, адрамантуюць мэблю, забяспечаць сваё дзіця (даецца цэлы спіс) патрэбным матэрыялам для навучання. І ў які раз натыкацца на сцяну маўчання. Так, для навучання яны купяць усё, што патрэбна, але, прабачце, дарагія цацкі, рамонт... Бацькі ведаюць, што праз год раскрыць кашалькі ім прапануе ўжо школа. А выхавацель, усё разумеючы, будзе шукаць нейкае выйсце сам.

Спяшаючыся дамоў, разважаем: што там засталося ў халадзільніку, ці варта з такой сумай у кашальку заходзіць у краму і як дома з нічога нешта прыгатаваць і накарміць сям'ю?

Я бачу больш-менш шчаслівыя вочы выхавацеляў толькі некалькі дзён у месяцы: тады, калі пойдзе чутка, што сёння будзе зарплата або аванс, і некалькі дзён пасля. А ўжо ў чаканні гэтага шчаслівага дня па некалькі разоў на дзень можна пачуць адно і тое ж ад калег: "У каго ж пазычыць тысячу-другую, каб "перабіцца" да зарплаты?..".

Цяпер у чарговы раз цешу сваіх калег, што падымецца мінімальная зарплата, тарыф першага разраду — і будзе лягчэй. Але няма ўжо ў людзей таго радаснага прадчування павышэння зарплаты, бо цэны літаральна на ўсе тавары і паслугі не дадуць адчуць гэтага.

Вельмі цяжка стала працаваць у тым сэнсе, што ўсё, што б мы ні пачыналі, якія праграмы і тэхналогіі ні спяшаліся б ператварыць у жыццё, натыкаецца на адну і тую ж праблему — матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне.

Згадзіцеся, як прыемна глянуць на афармленую ў адным стылі дакументацыю, калі і назва, і тэкст таго ці іншага матэрыялу набраны на камп'ютэры, на зграбныя, а не саматужна зробленыя з кардону і паперы гульневыя цэнтры ў групе, на яркія, прыгожыя, эмацыянальна афарбаваныя лялькі лялечнага тэатра, на прыгожыя касцюмы дзяцей на навагоднім балі. Толькі гэта ўсё мары, якія часткова стараюцца ажыццявіць педагогі асабістымі намаганнямі, працавітымі рукамі і творчымі пошукамі.

Больш шчаслівымі сталі выхавацелі-метадысты, бо ім "прапанавалі" высокую пасаду — намесніка загадчыка дзіцячай установы па асноўнай дзейнасці. Маючы такую пасаду, самаадукацыяй можна не займацца — на метадычную літаратуру грошы не прызначаны. Цяпер удасканальваць выхаваўча-навучальны працэс можа кожны педагог без катэгорыі, таму што і за катэгорыю намеснікам грошы не патрэбны.

Напрыканцы хочацца падзякаваць нашым уладам за тое, што знайшлі магчымасць увесці ў штатны расклад садка педагога-псіхолага. З яго дапамогай мы кожны дзень угаворваем сябе, якія мы ўсе прыгожыя і таленавітыя, якія мы руплівыя і добрыя, якія мы ўсе шчаслівыя, бо працуем з малымі дзеткамі, ствараем ім псіхафізічны і эмацыянальны камфорт — робім іх шчаслівымі.

Вера ў нашых людзей яшчэ не згасла. Спадзяёмся, што некалі будзем сацыяльна абаронены, з радасцю будзем спяшацца на працу, а з працы — дадому.

**Марыя ПАШКОВА,**
**намеснік загадчыка дзіцячага садка № 65 Гродна.**

Лета–2001

## Перад пачаткам аздараўленчай кампаніі

***Неўзабаве празвініць апошні званок гэтага навучальнага года, радасцю засвеціцца твары дзяцей — наперадзе лета, пара такіх доўгачаканых і доўгатэрміновых летніх канікулаў. А перад кожным з бацькоў паўстане злабадзённае пытанне — як найлепшым чынам арганізаваць адпачынак свайго дзіцяці, каб і здароўе ўмацаваць як след ды і для развіцця дзіцячага розуму і душы знайшоўся час і асяродак.***

Як будзе праводзіцца ў гэтым годзе летняя аздараўленчая кампанія, якія сродкі для фінансавання дзіцячага адпачынку выдзелены дзяржавай і ў адпаведнасці з імі як зарыентаваць бацькоў на набыццё пуцёвак у летнікі, на турысцкія базы, у санаторыі і дамы адпачынку, што новага паявіцца ў арганізацыі такой адказнай і няпростай справы? На ўсе гэтыя і шматлікія іншыя пытанні давалі адказы работнікі Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні дзяцей і насельніцтва, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі ўдзельнікам рэспубліканскага семінара арганізатараў летняга адпачынку дзяцей.

Адметнасць сёлетняй аздараўленчай кампаніі — у строгай і больш прадуманай праграме дзеянняў, у беражлівых адносінах да выдзеленых дзяржавай сродкаў і кантролі за іх выкарыстаннем. Рэспубліканскі цэнтр па аздараўленні сумесна з Міністэрствам адукацыі, улічыўшы прапановы кожнага рэгіёна нашай краіны, распрацаваў доўгатэрміновую праграму па ўмацаванні і развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы аздараўленчых дзіцячых летнікаў. Яе рэалізацыя будзе ажыццяўляцца на працягу 2001-2005 гадоў. На 60-70 працэнтаў праграма фінансуецца пераважна са сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Ужо ўступіла ў дзеянне Пастанова Савета Міністраў нашай краіны "Аб арганізацыі летняй аздараўленчай кампаніі ў 2001 годзе".

45 працэнтаў сродкаў з фонду сацыяльнага страхавання накіроўваецца на летні адпачынак дзяцей. Сярэдні кошт дзіцячай пуцёўкі складае 120-130 тысяч рублёў. Вызначана датацыя дзяржавы на пакрыццё затрат бацькоў на пуцёўку: у летнік з дзённым знаходжаннем дзіцяці — 30 тысяч рублёў, у летнік з кругласутачным знаходжаннем — 70 тысяч рублёў.

Пастановай Савета Міністраў дазволена дадатковая даплата ў памеры 35 тысяч рублёў за кожную пуцёўку арганізацыямі і ўстановамі, дзе працуюць бацькі. У гэтай пастанове тлумачыцца, з якіх крыніц тая ці іншая арганізацыя можа зрабіць такую даплату.

На падрыхтоўку аздараўленчай базы летнікаў выдзелена 780 мільёнаў рублёў. Гэта вельмі малыя сродкі, і таму распарадзіцца імі трэба ашчадна.

Прывабнай асаблівасцю летняй аздараўленчай кампаніі гэтага года павінна стаць педагагічна выверaная, прадуманая, мэтанакіраваная арганізацыя жыццядзейнасці кожнага дзіцячага летніка. Поспех у гэтай справе будзе забяспечаны пры ўмове строгага прафесійнага падбору на працу з дзецьмі педагогаў-арганізатараў, кіраўнікоў летнікаў, выхавальнікаў, усяго абслуговага персаналу. Зрабіць жыццё дзяцей цікавым, змястоўным, адначасова развіваючы іх інтэлект і ўмацоўваючы здароўе, здольны таленавітыя, творчыя педагогі-энтузіясты, узброеныя сучаснымі методыкамі арганізацыі выхавання дзяцей ва ўмовах летніка.

Высокапрафесійныя метадысты, вопытныя арганізатары адпачынку дзяцей, выкладчыкі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, БДУ арганізавалі для ўдзельнікаў семінара майстар-класы, паказалі, як спраектаваць і спраграмаваць змест выхаваўчай работы з дзецьмі, стварыць алгарытм лагернай змены, змадэляваць адметную выхаваўчую сістэму, наладзіць эфектыўнае ўзаемадзеянне дарослых і дзяцей ва ўмовах летніка.

Метадычна-інфармацыйны аддзел Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі прапанаваў удзельнікам рэспубліканскага семінара цікавую літаратуру па арганізацыі летняга адпачынку дзяцей, для кожнага рэгіёна краіны падрыхтаваў падборку спецыяльных метадычных дапаможнікаў.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

Інтэрв'ю на актуальную тэму

## Тут рыхтуюць абітурыентаў

***Наша гутарка — з дэканам факультэта даінстытуцкай падрыхтоўкі Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі прафесарам Генадзем Цітавічам Шырокім. Мы папрасілі яго адказаць на некаторыя пытанні.***

**— Скажыце, калі ласка, якія задачы стаяць перад вашым факультэтам?**

— Мы займаемся падрыхтоўкай абітурыентаў да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і непасрэдна ў нашу. Іншымі словамі, павышаем агульнаадукацыйны ўзровень. Сёння ні для каго не сакрэт, што ёсць пэўны разрыў паміж узроўнем ведаў выпускнікоў сярэдніх школ і ўзроўнем патрабаванняў пры паступленні ў ВНУ. Прычыны тут розныя. Таму мы пастаянна працуем са школамі. Шукаем адораных і таленавітых маладых людзей.



Сёння ў складзе факультэта даінстытуцкай падрыхтоўкі ліцэй, ліцэйскія класы ў школах, гімназіях у розных рэгіёнах рэспублікі, політэхнічная гімназія, падрыхтоўчыя аддзяленні і курсы, кансультацыйныя пункты. І ўсе гэтыя структурныя падраздзяленні факультэта маюць вочную, завочную, вячэрнюю і змешаную формы навучання.

**— А не маглі б вы патлумачыць, чым яны адрозніваюцца паміж сабой і хто ў іх можа вучыцца?**

— У ліцэй нашай ВНУ, напрыклад, паступаюць на конкурснай аснове найбольш здольныя вучні, якія скончылі 9 класаў і паспяхова вытрымалі ўступныя экзамены. Ліцэй мае два профільныя накірункі — інжынерны і архітэктурны. У перыяд з 20 па 30 чэрвеня вучні, якія паступаюць на інжынерны профіль, выконваюць пісьмовыя работы па рускай або беларускай мове, фізіцы і матэматыцы, а на архітэктурны — па рускай або беларускай мове, чарчэнні і малюнку.

Выкладанне вучэбных дысцыплін у ліцэі ажыццяўляецца выкладчыкамі акадэміі (вопытнымі прафесарамі, дацэнтамі), што забяспечвае высокі ўзровень падрыхтоўкі вучняў. Як правіла, усе выпускнікі ліцэя паступаюць на першы курс акадэміі і толькі нязначная частка іх — у іншыя ВНУ рэспублікі. Навучанне бясплатнае.

Ліцэйскія класы працуюць на базе сярэдніх школ або гімназій у 17 раёнах рэспублікі і 10 школах і гімназіях Мінска. Для арганізацыі ліцэйскага класа ў той або іншай школе неабходна дастатковая колькасць вучняў (каля 25), якія скончылі 9 класаў і могуць паспяхова займацца па спецыяльным вучэбным плане.

Адметнай асаблівасцю навучання ў ліцэйскіх класах з'яўляецца правядзенне выкладчыкамі акадэміі адзін раз у чвэрць кантрольных работ па профільных дысцыплінах, чытанне аглядных лекцый па асобных тэмах і правядзенне кансультацый для вучняў, аказанне дапамогі настаўнікам па методыцы выкладання і забеспячэнне вучэбна-метадычнай літаратурай. Навучанне ажыццяўляюць выкладчыкі акадэміі, якія звычайна выязджаюць для работы ў школы або ў нядзельныя дні прывозяць школьнікаў у акадэмію. Вучоба праводзіцца на бясплатнай аснове. Аплачваюцца толькі дадатковыя адукацыйныя паслугі (праверка кантрольных работ, чытанне аглядных лекцый і правядзенне кансультацый, пераводных і ўступных экзаменаў). Ёсць ліцэйскія класы з завочнай формай навучання. У іх залічваюцца вучні, якія скончылі, як правіла, сем класаў школы, па выніках субяседавання па профільных прадметах.

Пасля кожнага года навучання праводзяцца пераводныя экзамены. Вучні завочных ліцэйскіх класаў выконваюць кантрольныя работы, якія правяраюцца выкладчыкамі нашай акадэміі. Штомесячна на базе факультэта даінстытуцкай падрыхтоўкі праводзяцца лекцыі і кансультацыі па вывучаемых прадметах.

Усяго ў ліцэйскіх класах на завочнай форме навучання цяпер займаецца больш як 300 вучняў. Усё шырэй у ліцэйскія класы прыцягваюцца дзеці з сельскіх школ (аддзелы адукацыі адкрываюць інтэрнаты або арганізуюць падвоз вучняў, напрыклад, з Валожына, Ляхавіч, Ганцавіч, Клецка). Мы праводзім адпаведную работу па павелічэнні колькасці школьнікаў гэтай катэгорыі. Цяпер мы заключаем дагавор з Пухавіцкім аддзелам адукацыі.

Пасля адпаведнай падрыхтоўкі ў ліцэйскіх класах больш як 90 працэнтаў вучняў становяцца студэнтамі БДПА і іншых ВНУ краіны.

На падрыхтоўчыя курсы прымаюцца непасрэдна вучні 11 класаў або тыя, хто скончыў сярэднія навучальныя ўстановы.

Вучоба на вячэрняй і завочнай формах навучання працягваецца ад трох да васьмі месяцаў. У ліпені кожнага года праводзяцца 14-дзённыя стацыянарныя заняткі, а на вячэрніх курсах — тры разы на тыдзень.

Хацелася б звярнуць увагу, што слухачы завочных курсаў выконваюць кантрольныя работы, наведваюць аглядныя лекцыі і атрымліваюць кансультацыі (два разы на месяц), забяспечваюцца неабходнай метадычнай літаратурай.

На падрыхтоўчае аддзяленне прымаюцца асобы, якія маюць сярэднюю адукацыю. Адбор і залічэнне ў склад слухачоў праводзяцца па выніках гутарак з кожным паступаючым. Падрыхтоўка іх вядзецца на дзённай і завочнай формах навучання. У тым ліку на дзённай — 8 месяцаў, завочнай — 9.

Вучэбны план прадугледжвае вывучэнне дысцыплін, па якіх праводзяцца ўступныя экзамены ў акадэмію, а таксама дадаткова вывучаецца чарчэнне.

Заняткі на падрыхтоўчым аддзяленні па ўсіх прадметах вядуць выкладчыкі адпаведных кафедр акадэміі. З гэтага года будуць арганізаваны курсы па падрыхтоўцы да тэсціравання.

**— Раскажыце, калі ласка, аб формах аплаты навучання на вашым факультэце.**

— Яны розныя. У ліцэі БДПА, напрыклад, навучанне бясплатнае. У ліцэйскіх класах яно таксама пераважна бясплатнае. Аплачваюцца толькі дадатковыя адукацыйныя паслугі, што складае каля васьмі мінімальных заработных плат у год. Аплату могуць рабіць як аддзелы адукацыі, спонсары, так і бацькі вучняў. Але на падрыхтоўчых аддзяленнях і курсах навучанне платнае. Пры гэтым кошт яго на першым курсе складае каля 80 мінімальных зарплат. Вызваляюцца ад аплаты за навучанне слухачы, якія пражываюць на тэрыторыях, што пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС.

На падрыхтоўчых курсах кошт навучання залежыць ад яго працягласці і напаўняльнасці груп і складае ад 52 тысяч рублёў і больш.

**— Ці існуюць ільготы для выпускнікоў вашага факультэта пры паступленні ў акадэмію?**

— Так, існуюць. Па-першае, веды, атрыманыя за час навучання, дазваляюць практычна ўсім слухачам атрымаць станоўчыя адзнакі на ўступных экзаменах. Па-другое, у выпадку роўнай колькасці балаў, набраных пры паступленні ў ВНУ, сярод іншых паказчыкаў перавага аддаецца ў тым ліку і слухачам факультэта даінстытуцкай падрыхтоўкі. Па-трэцяе, выпускнікі сельскіх школ і школ, якія знаходзяцца на тэрыторыях, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, маюць права ўдзельнічаць у конкурсе па выніках сумешчаных іспытаў, гэта значыць ва ўступных экзаменах яны могуць не ўдзельнічаць. І практыка паказвае, што выпускнікі ліцэя, ліцэйскіх класаў і падрыхтоўчага аддзялення амаль усе паспяхова здаюць экзамены і паступаюць у акадэмію. У выпускнікоў падрыхтоўчых курсаў гэты паказчык некалькі ніжэй і складае 60-70 працэнтаў ад усёй іх колькасці. Астатнія 30-40 працэнтаў з іх паступаюць у іншыя ВНУ рэспублікі.

**— А якая геаграфія вашых слухачоў?**

— Практычна мы ахопліваем усе рэгіёны нашай краіны. На факультэце ўвогуле займаецца каля 4 тысяч слухачоў. Акрамя таго, на падрыхтоўчым аддзяленні штогод навучаецца каля 100 замежных навучэнцаў з Кітая, Лівана і іншых краін.

**— Што неабходна ажыццявіць, напрыклад, дырэктару школы або аддзелу адукацыі таго або іншага раёна, каб арганізаваць ліцэйскі клас?**

— Для гэтага прадстаўніку аддзела адукацыі або дырэктару школы трэба звярнуцца да нас з просьбай аб заключэнні дагавора. Пры гэтым абавязковай умовай для яго заключэння павінна быць дастатковая колькасць вучняў (як мінімум адзін клас) у школе, раёне, якія здольны выканаць вучэбны план і праграмы. І, вядома, патрэбна згода бацькоў і вучняў.

**— Калі да Вас можна звяртацца па гэтых пытаннях?**

— На працягу года. Але лепш за ўсё — да пачатку навучальнага года.

**Гутарыў Пётр ШУБЯНОК.**

# Абітурыенту-2001

*Дарагія сябры! Неўзабаве празвініць апошні званок, вы закончыце сваё навучанне ў школе. Ведаю па сабе, што вы не раз будзеце ўзгадваць гэтыя хвалюючыя моманты, настальгічна вяртацца да шчаслівых школьных імгненняў.*

*Цяпер жа павінны прадэманстраваць свае ўменні і навыкі, набытыя за гады школьнага жыцця, на выпускных экзаменах, а затым паспрабаваць свае сілы, інтэлектуальную моц у нялёгкай абітурыенцкай барацьбе. ВНУ, тэхнікумы і вучылішчы, каледжы і ліцэі шырока адчыняць дзверы перад вамі — пачынальнікамі новага тысячагоддзя і спадчыннікамі XX стагоддзя. Ад вас патрабуецца толькі адно — апраўдаць адзнакі і спадзяванні сваёй роднай школы.*

*Гэты спецыяльны выпуск "Настаўніцкай газеты" прысвечаны вам. Мае калегі пазнаёмяць вас з тымі правамі, якія вы маеце, і раскажуць пра магчымасці, якія вы можаце выкарыстаць. Уважліва чытайце, і вы знойдзеце неабходную для абітурыента-2001 інфармацыю.*

*Жадаю вам удалага выбару прафесійнага шляху, спагадлівых экзаменатараў і лёгкіх білетаў на ўступных іспытах.*

**Васіль СТРАЖАЎ,**
**міністр адукацыі**
**Рэспублікі Беларусь.**

## Сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы запрашаюць

***150 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў рэспублікі — тэхнікумы, вучылішчы, каледжы, вышэйшыя каледжы — рыхтуюцца да прыёму навучэнцаў.***

Сёлета плануецца залічыць на навучанне па дзённай, вячэрняй, завочнай формах у ССНУ Беларусі каля 50 тысяч чалавек, якія будуць навучацца па 160 спецыяльнасцях і 400 спецыялізацыях і атрымаюць прафесіі настаўнікаў, таваразнаўцаў, эканамістаў, бухгалтараў, музыкантаў, мастакоў. Няма ніводнай галіны гаспадаркі Беларусі, дзе не было б выпускнікоў сярэдняй спецыяльнай школы. Іх можна сустрэць у розных галінах матэрыяльнай вытворчасці, аховы здароўя, адукацыі, эканомікі, гандлю і інш. Іх асноўныя функцыі — гэта падрыхтоўка і апрацоўка тэхнічнай, тэхналагічнай і іншай дакументацыі для забеспячэння інжынерна-тэхнічных і кіраўніцкіх рашэнняў, кіраўніцтва дзейнасцю розных структур на вытворчасці і ў іншых сферах гаспадаркі, забеспячэнне функцыянавання найбольш складаных тэхнічных, тэхналагічных сістэм і кіраўніцтва імі, аказанне ўрачэбна-прафілактычнай дапамогі, выраб лекавых прэпаратаў і г.д.

За апошнія гады значна пашыраны магчымасці грамадзян для атрымання спецыяльнасцяў гуманітарнага, эканамічнага профіляў, для прадпрымальніцкай дзейнасці, такіх, як банкаўская справа, маркетынг, менеджмент, камерцыйная дзейнасць, ахова навакольнага асяроддзя, сацыяльная работа, дызайн і г.д. Колькасць спецыяльнасцей, па якіх вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў, і кантрольныя лічбы прыёму штогод абнаўляюцца і пераглядаюцца з улікам становішча на рынку працы, жаданняў заказчыкаў кадраў і магчымасцей навучальных устаноў.

У гэтым годзе распрацаваны і зацверджаны новыя правілы прыёму, у адпаведнасці з якімі ў сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на конкурснай аснове прымаюцца асобы, якія пастаянна пражываюць у рэспубліцы, а таксама грамадзяне Беларусі, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі. Звыш кантрольных лічбаў прыёму па ўсіх формах навучання на аснове дагавораў за аплату ў ССНУ на конкурснай аснове могуць залічвацца грамадзяне, якія станоўча здалі ўступныя экзамены.

Без уступных экзаменаў (акрамя экзаменаў па спецыяльнасці) у ССНУ залічваюцца асобы, якія закончылі базавую школу з адзнакай альбо сярэднюю школу з залатым ці сярэбраным медалём, прафесійна-тэхнічнае вучылішча на базе дзевяцігадовай школы з дыпломам з адзнакай. Але пры наяўнасці конкурсу прыёмныя камісіі праводзяць з імі адзін уступны экзамен. Пераможцы міжнародных, рэспубліканскіх конкурсаў прафесійнага майстэрства навучэнцаў ПТНУ па абранай у тэхнікуме роднаснай спецыяльнасці залічваюцца таксама без уступных экзаменаў.

Вызваляюцца ад уступнага экзамену па адпаведным прадмеце з выстаўленнем адзнакі "5" (выдатна) пераможцы міжнародных, рэспубліканскіх, абласных (Мінскага гарадскога) тураў прадметных алімпіяд навучэнцаў школ і ПТВ.

Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых адзнак на ўступных экзаменах залічваюцца дзеці-сіроты і дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў; інваліды I і II груп і інваліды з дзяцінства і некаторыя іншыя катэгорыі грамадзян.

Пераважным правам пры залічэнні (калі набрана аднолькавая агульная колькасць балаў) карыстаюцца інваліды III групы, асобы ў адпаведнасці з Законам "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС" і асобы з большым стажам практычнай работы па профілі абранай спецыяльнасці, калі яны паступаюць на навучанне без адрыву ад вытворчасці, а таксама грамадзяне, якія маюць больш высокі сярэдні бал у дакуменце аб адукацыі.

Абітурыенты здаюць два ўступныя экзамены, адзін з якіх — па выбары абітурыента — па беларускай мове і літаратуры ці па рускай мове і літаратуры (пісьмова). Другі экзамен і форму яго правядзення вызначаюць навучальныя ўстановы. Акрамя таго, тыя, хто паступае на асобныя спецыяльнасці культуры і мастацтва, адукацыі, архітэктуры і будаўніцтва, аховы здароўя і іншыя, трымаюць дадатковы ўступны экзамен па спецыяльнасці. Экзамен праводзіцца ў першую чаргу.

Пры паступленні на спецыяльнасці, па якіх конкурс ў мінулым, 2000 годзе, складаў 5 чалавек на месца і больш, другі экзамен праводзіцца ў пісьмовай форме. Тыя, хто паступае на філалагічныя спецыяльнасці, павінны здаваць экзамен у адпаведнасці з абранай спецыяльнасцю.

У ССНУ, у якіх конкурс у мінулым годзе складаў 3 чалавекі на адно месца і больш, першы ўступны экзамен — па беларускай мове і літаратуры ці па рускай мове і літаратуры (пісьмова) — у гэтым годзе будзе праводзіцца ў фіксаваныя дні, і нумары канвертаў з тэкстамі дыктовак будуць аб'яўляцца па тэлебачанні.

Уступныя экзамены, як і ў мінулым годзе, будуць праводзіцца з ацэнкай ведаў па шасцібальнай сістэме (2; 3; 3,5; 4; 4,5; 5). Таксама будуць залічвацца вынікі цэнтралізаванага тэсціравання ў адпаведнасці з прадстаўленым дзяржаўным сертыфікатам у якасці ўступных экзаменаў.

Залічэнне на ўсе спецыяльнасці, акрамя спецыяльнасцей, па якіх ажыццяўляецца мэтавая падрыхтоўка, праводзіцца па асобных конкурсах сярод выпускнікоў гарадскіх школ і сярод выпускнікоў сельскіх школ і ПТНУ сельскагаспадарчага профілю (якія пастаянна пражываюць не менш двух гадоў у сельскіх населеных пунктах) прапарцыянальна пададзеным заявам у адпаведнасці з колькасцю балаў, набраных абітурыентамі на конкурсных уступных іспытах. У тых выпадках, калі конкурсны бал сярод выпускнікоў сельскіх школ аднолькавы або перавышае конкурсны бал сярод выпускнікоў гарадскіх школ, залічэнне праводзіцца па агульным конкурсе.

На навучанне без адрыву ад вытворчасці залічэнне праводзіцца па конкурсе. У першую чаргу залічваюцца абітурыенты, якія маюць прафесійна-тэхнічную адукацыю з атрыманнем сярэдняй адукацыі або стаж практычнай работы не менш за 6 месяцаў і паступаюць на адпаведныя ці роднасныя спецыяльнасці. Колькасць іншых асоб, якія залічаны па дадзенай спецыяльнасці, не павінна перавышаць 20 працэнтаў ад кантрольных лічбаў прыёму.

Залічэнне абітурыентаў на ўмовах мэтавай падрыхтоўкі спецыялістаў ажыццяўляецца па асобным конкурсе.

На месцы, што засталіся пасля залічэння ўсіх асоб, якія вытрымалі ўступныя экзамены ў дадзеную ССНУ, прыёмным камісіям дазваляецца прымаць асоб, што здавалі такія ж уступныя экзамены, як у дадзеную ССНУ, але не прайшлі па конкурсе ў іншыя сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, на падставе даведак устаноўленага ўзору.

Для дапамогі паступаючым у тэхнікумах і вучылішчах ствараюцца падрыхтоўчыя курсы для здачы ўступных экзаменаў з рознымі формамі і тэрмінамі навучання. На час паступлення абітурыентам прадастаўляюцца бібліятэкі, чытальныя залы, інтэрнат, сталовая і буфеты, медыцынскія пункты.

Для ўдасканалення падрыхтоўкі спецыялістаў, скарачэння фінансавых затрат на іх падрыхтоўку і развіцця нацыянальнай сістэмы бесперапыннай адукацыі ў Беларусі ствараюцца навучальныя аб'яднанні тыпу "Вышэйшая навучальная ўстанова — сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова" альбо "Сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова — прафесійна-тэхнічная навучальная ўстанова". Стварэнне аб'яднанняў дазваляе ажыццявіць адбор найбольш таленавітых навучэнцаў і падрыхтаваць з іх высокакваліфікаваных спецыялістаў, рацыянальна выкарыстоўваць навучальна-лабараторную базу і педагагічныя кадры. Такая схема падрыхтоўкі спецыялістаў дазваляе выпускнікам ССНУ атрымаць вышэйшую, а выпускнікам ПТВ — сярэднюю спецыяльную адукацыю ў скарочаныя тэрміны.

Значна пашыраны магчымасці навучэнцаў ССНУ па атрыманні дадатковых ведаў. Так, прадугледжаны пералік факультатыўна вывучаемых дысцыплін дазваляе атрымаць больш глыбокія веды па эканамічных, экалагічных, сацыяльных і іншых прадметах.

У сярэдніх спецыяльных навучальных установах ствараюцца спрыяльныя ўмовы для паспяховай вучобы і адпачынку. Пры большасці ССНУ ёсць інтэрнаты, прадпрыемствы грамадскага харчавання, медыцынскія пункты, спартыўныя збудаванні і г.д. У гуртках мастацкай самадзейнасці навучэнцы развіваюць свае эстэтычныя здольнасці і схільнасці. Пры дапамозе разнастайных сродкаў выхаваўчай работы вывучаецца і адраджаецца нацыянальная культура.

У навучальных майстэрнях ССНУ ствараюцца ўмовы для вырабу тавараў народнага спажывання, аказання паслуг насельніцтву. за сваю работу навучэнцы атрымліваюць адпаведную плату, што дазваляе папоўніць іх бюджэт.

Падрыхтоўка спецыялістаў па дзённай форме навучання на базе поўнай і няпоўнай сярэдняй школы працягваецца ад двух да чатырох год. Вячэрняе і завочнае навучанне ў ССНУ ажыццяўляецца толькі на базе сярэдняй адукацыі.

Добрым дапаможнікам для зацікаўленых будзе "Даведнік для паступаючых у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь у 2001 годзе", выдадзены выдавецтвам "Вышэйшая школа", у якім змешчаны правілы прыёму ў дзяржаўныя ССНУ Рэспублікі Беларусь, праграмы ўступных экзаменаў, адрасы ССНУ і спецыяльнасці, па якіх яны ажыццяўляюць прыём.

Сардэчна запрашаем усіх да нас на вучобу!

**Леанід КІРЫЛЮК,**
**начальнік аддзела сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі.**

## Правілы прыёму ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2001 год

1. У дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь (далей — ВНУ) прымаюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Таджыкістан, а таксама асобы, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь або маюць статус бежанца.

Пералічаныя катэгорыі асоб маюць права атрымаць на базе сярэдняй адукацыі на конкурснай аснове бясплатную вышэйшую адукацыю, калі адукацыя дадзенага ўзроўню атрымліваецца ўпершыню.

Парадак прыёму грамадзян іншых замежных дзяржаў вызначаюць ВНУ па ўзгадненні з органамі дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана міждзяржаўнымі пагадненнямі.

2. Колькасць месцаў для прыёму студэнтаў на навучанне за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту вызначаецца кантрольнымі лічбамі прыёму, якія ўстанаўліваюцца міністэрствамі, іншымі органамі дзяржаўнага кіравання, у падпарадкаванні якіх знаходзяцца ВНУ.

3. Звыш кантрольных лічбаў прыёму ВНУ могуць ажыццяўляць прыём студэнтаў на падставе дагавораў з аплатай навучання юрыдычнымі або фізічнымі асобамі.

На звышпланавыя месцы, колькасць якіх і ўмовы залічэння вызначаюць ВНУ ў залежнасці ад наяўнай вучэбна-лабараторнай базы і прафесарска-выкладчыцкага складу, па конкурсе могуць залічвацца абітурыенты, якія станоўча здалі ўступныя іспыты, але не прайшлі па конкурсе на месцы, якія фінансуюцца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту, у гэтую ці іншую ВНУ пры ўмове адпаведнасці ўступных іспытаў незалежна ад формы іх правядзення (вусна ці пісьмова), а таксама па выніках гутаркі па прадметах уступных іспытаў ці па сярэднім бале ацэнак дакумента аб сярэдняй адукацыі.

Памер аплаты за навучанне вызначаюць ВНУ.

4. Другую і наступную вышэйшую адукацыю можна атрымаць на ўмовах поўнай аплаты навучання юрыдычнымі або фізічнымі асобамі.

Умовы прыёму і навучання вызначаюцца адпаведным палажэннем.

5. Тэрміны прыёму на дзённую форму навучання: прыём дакументаў — з 25 чэрвеня па 15 ліпеня, уступныя іспыты — з 16 па 31 ліпеня, залічэнне на планавыя месцы — да 5 жніўня, на ўмовах аплаты навучання — да 25 жніўня.

Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, Ваенная акадэмія і Камандна-інжынерны інстытут прыём ажыццяўляюць у тэрміны, якія вызначаны ВНУ па ўзгадненні з органамі дзяржаўнага кіравання.

На завочную, вячэрнюю формы навучання, а таксама на ўмовах аплаты прыём праводзіцца ў тэрміны, якія вызначаюць навучальныя ўстановы па ўзгадненні з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

6. Дакументы, якія абітурыенты падаюць ці дасылаюць па пошце ў прыёмную камісію ВНУ:

заява ўстаноўленага ўзору на імя рэктара;

дакумент дзяржаўнага ўзору аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале. Натарыяльна завераная копія ці ксеракопія можа прадстаўляцца ў іншую ВНУ (ксеракопія завяраецца прыёмнай камісіяй па арыгінале той ВНУ, у якую яна прадстаўляецца);

сертыфікат цэнтралізаванага тэсціравання ў арыгінале або яго натарыяльна завераная копія ці ксеракопія (ксеракопія завяраецца прыёмнай камісіяй па арыгінале той ВНУ, у якую яна прадстаўляецца);

медыцынская даведка па форме 086У;

выпіска з працоўнай кніжкі (для тых, хто працуе);

даведка службы занятасці насельніцтва (для тых, хто знаходзіцца на яе ўліку);

6 фотакартак памерам 3х4.

Абітурыенты, якія паступаюць не ў год атрымання сярэдняй адукацыі, абавязаны прадставіць дакументы, якія пацвярджаюць іх вучобу ці работу за гады, што папярэднічалі паступленню (дыплом, выпіска з працоўнай кніжкі або даведка службы занятасці насельніцтва, іншае).

Разам з пералічанымі прадстаўляюцца дакументы, якія пацвярджаюць права абітурыентаў на льготы, якія ўстаноўлены заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, ці сведчаць аб асабістых здольнасцях і талентах абітурыентаў.

Пашпарт або іншае пасведчанне асобы, выдадзенае органамі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, прад'яўляецца абітурыентам асабіста.

7. Колькасць (3-5) уступных іспытаў і іх пералік вызначаюць ВНУ з улікам профілю спецыяльнасці і ў адпаведнасці з патрабаваннямі адукацыйнага стандарту.

Абавязковым для ўсіх абітурыентаў з'яўляецца пісьмовы ўступны экзамен па беларускай ці рускай мовах як дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь, які абітурыенты здаюць на выбар. Пры паступленні на філалагічныя спецыяльнасці неабходна здаваць экзамен па адпаведнай мове. Форму правядзення экзамену (сачыненне, пераказ, дыктант) вырашаюць прыёмныя камісіі ВНУ. Гэты экзамен праводзіцца па цэнтралізаваных заданнях у фіксаваныя дні.

Прадугледжваецца ўвядзенне ўступнага экзамену па замежнай мове (англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай). Абітурыенты могуць здаваць яго на выбар незалежна ад таго, якую замежную мову яны вывучалі ў сярэдняй навучальнай установе. Абітурыентам, якія пастаянна пражываюць не менш двух гадоў у сельскіх населеных пунктах або на тэрыторыях, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, і скончылі агульнаадукацыйныя навучальныя ўстановы, а таксама прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы сельскагаспадарчага профілю, якія размешчаны ў гэтых населеных пунктах, дазваляецца замест уступнага экзамену па замежнай мове здаваць уступны экзамен па беларускай ці рускай мове. Пры паступленні на факультэты замежных моў неабходна здаваць уступны экзамен па замежнай мове, якая адпавядае спецыяльнасці.

На спецыяльнасці, конкурс па якіх у папярэдні год перавышаў 2,7 чалавека на месца, уступныя іспыты па агульнаадукацыйных прадметах праводзяцца, як правіла, у пісьмовай форме.

Прыёмныя камісіі вызначаюць профільныя (конкурсныя) іспыты, адзін з якіх праводзіцца першым і, як правіла, у пісьмовай форме.

Уступныя іспыты праводзяцца па праграмах, якія складзены ў адпаведнасці з вучэбнымі праграмамі агульнай сярэдняй адукацыі і зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Выключэнне складаюць праграмы ўступных іспытаў па дысцыплінах мастацтва і фізічнай культуры, якія распрацоўваюцца і зацвярджаюцца ВНУ.

Абітурыенты маюць права здаваць уступныя іспыты на выбар на беларускай ці на рускай мове. Ацэнка ведаў ажыццяўляецца па сістэме з шасці (2; 3; 3,5; 4; 4,5; 5) ці дзесяці (1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10) балаў.

Уступныя іспыты могуць праводзіцца ў форме экзаменаў, тэсціравання, субяседавання, аўдзіравання, праслухоўвання, прагляду.

Расклад уступных іспытаў прыёмныя камісіі абвяшчаюць і прадстаўляюць Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь не пазней як за тыдзень да пачатку іх правядзення.

Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту дазваляецца праводзіць уступныя іспыты па праграмах, якія распрацаваны і зацверджаны гэтай ВНУ.

8. Абітурыенты, якія не з'явіліся на ўступныя іспыты без уважлівых прычын або атрымалі нездавальняючую адзнаку, а таксама якія забралі дакументы, да астатніх іспытаў не дапускаюцца.

Асобы, якія не з'явіліся на ўступныя іспыты па ўважлівай прычыне, дапускаюцца да іх здачы па рашэнні старшыні ці адказнага сакратара прыёмнай камісіі ў тэрміны, якія абмежаваны раскладам уступных іспытаў ВНУ.

9. Залічэнне праводзіцца толькі сярод асоб, якія прадставілі ў вызначаныя навучальнымі ўстановамі тэрміны ў прыёмную камісію арыгінал дакумента дзяржаўнага ўзору аб сярэдняй адукацыі.

Залічэнне на ўсе спецыяльнасці, акрамя спецыяльнасцей, па якіх ажыццяўляецца мэтавая падрыхтоўка, праводзіцца па асобным конкурсе сярод выпускнікоў гарадскіх, а таксама сельскіх школ і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў сельскагаспадарчага профілю (якія пастаянна пражываюць не менш двух гадоў у сельскіх населеных пунктах) прапарцыянальна пададзеным заявам ў адпаведнасці з колькасцю балаў, набраных абітурыентамі на конкурсных уступных іспытах. У тых выпадках, калі конкурсны бал выпускнікоў сельскіх школ аднолькавы або перавышае конкурсны бал выпускнікоў гарадскіх школ, залічэнне праводзіцца па агульным конкурсе.

Конкурс можа праводзіцца па спецыяльнасцях (спецыялізацыях), групах спецыяльнасцей, факультэтах або па ВНУ.

Пры прыёме на спецыяльнасці тэхнічнага, сельскагаспадарчага і ваеннага профіляў ВНУ залічваюць вынікі цэнтралізаванага тэсціравання ў адпаведнасці з прадстаўленым сертыфікатам. Навучальныя ўстановы маюць права залічваць вынікі цэнтралізаванага тэсціравання таксама на іншыя спецыяльнасці.

10. Абітурыенты, якія прайшлі даінстытуцкую падрыхтоўку, паступаюць на агульных падставах.

Сумешчаныя выпускныя і ўступныя экзамены, якія прымаюцца экзаменацыйнымі камісіямі ВНУ, праводзяцца для асоб, якія пастаянна пражываюць не менш двух гадоў у сельскіх населеных пунктах або на тэрыторыях, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, і скончылі агульнаадукацыйныя навучальныя ўстановы, якія размешчаны ў гэтых населеных пунктах, а таксама для асоб, якія скончылі прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы сельскагаспадарчага профілю і паступаюць на адпаведныя спецыяльнасці. З вынікамі сумешчаных экзаменаў яны могуць удзельнічаць у агульным конкурсе.

11. Парадак залічэння асоб, якія скончылі сярэднюю агульнаадукацыйную навучальную ўстанову з залатым (сярэбраным) медалём, сярэднюю спецыяльную ці прафесійна-тэхнічную навучальную ўстанову (на аснове базавай школы з атрыманнем сярэдняй адукацыі) з дыпломам з адзнакай, вызначаюць ВНУ.

12. Пераможцы міжнародных, рэспубліканскіх (дыплом I ступені) прадметных алімпіяд школьнікаў, навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, якія праведзены Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у бягучым навучальным годзе, залічваюцца без уступных іспытаў пры паступленні на адпаведныя спецыяльнасці, якія вызначаюцца ВНУ. Пералічаныя асобы, якія паступаюць на іншыя спецыяльнасці, а таксама пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд (дыпломы II і III ступеняў) вызваляюцца ад здачы ўступных іспытаў па адпаведным прадмеце з выстаўленнем адзнакі "5".

Парадак залічэння пераможцаў іншых рэспубліканскіх алімпіяд, турніраў і конкурсаў, а таксама абласных алімпіяд і алімпіяд ВНУ вызначаюць прыёмныя камісіі ВНУ па ўзгадненні з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

13. Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых ацэнак на ўступных іспытах па ўсіх формах навучання залічваюцца:

воіны-інтэрнацыяналісты;

дзеці-сіроты і дзеці, што засталіся без апекі бацькоў;

дзеці з сем'яў ваеннаслужачых або рабочых і служачых, што займалі штатныя пасады ў воінскіх часцях, якія загінулі (памерлі) ці сталі інвалідамі ў час праходжання ваеннай службы або працы ў складзе савецкіх войск на тэрыторыі дзяржаў, у якіх вяліся баявыя дзеянні, а таксама дзеці з сем'яў ваеннаслужачых, якія загінулі (памерлі) у мірны час пры праходжанні ваеннай службы;

дзеці з сем'яў асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія загінулі (памерлі) або сталі інвалідамі пры выкананні службовых абавязкаў на тэрыторыі дзяржаў, у якіх вяліся баявыя дзеянні, а таксама якія загінулі (памерлі) у мірны час пры выкананні службовых абавязкаў;

інваліды I і II груп, а таксама дзеці-інваліды, якім у адпаведнасці з заключэннем медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій не супрацьпаказана навучанне і якія могуць наведваць заняткі;

асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасці з артыкулам 18 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991г., № 10, арт. 111). Абітурыенты гэтай катэгорыі, якія закончылі навучальныя ўстановы на "выдатна" (з выдатнымі адзнакамі), залічваюцца па выніках гутаркі па прадметах уступных іспытаў;

беларусы замежжа па рэкамендацыях беларускіх суполак ці навучальных устаноў на спецыяльна вылучаныя органамі дзяржаўнага кіравання формы навучання ці спецыяльнасці ў межах кантрольных лічбаў прыёму ў ВНУ, якія фінансуюцца за кошт сродкаў бюджэту.

14. Пераважнае права на залічэнне па ўсіх формах навучання пры аднолькавай колькасці балаў маюць:

інваліды III групы пры адсутнасці медыцынскіх супрацьпаказанняў;

асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасці з артыкуламі 19, 20, 23, 24, 25 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС";

звольненыя ў запас ваеннаслужачыя, якія маюць ільготы, устаноўленыя заканадаўствам, і рэкамендацыі воінскіх часцей;

выпускнікі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа пры паступленні на адпаведныя спецыяльнасці;

асобы, якія маюць працоўны стаж не менш як два гады.

Іншыя крытэрыі на аднясенне абітурыентаў да гэтай катэгорыі вызначаюць прыёмныя камісіі ВНУ.

15. Залічэнне абітурыентаў на ўмовах мэтавай падрыхтоўкі спецыялістаў ажыццяўляецца па асобным конкурсе згодна даведзеных планаў мэтавага прыёму, Парадку прыёму ВНУ, які распрацаваны на падставе Правілаў прыёму ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2001 год.

16. ВНУ могуць ажыццяўляць прыём выпускнікоў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў на скарочаны тэрмін навучання на ўмовах і ў аб'ёмах, вызначаных вучэбна-навуковымі аб'яднаннямі адпаведных навучальных устаноў згодна дзеючых нарматыўна-прававых дакументаў.

Залічэнне праводзіцца на вакантныя месцы, а пры іх адсутнасці — у межах кантрольных лічбаў прыёму.

17. На завочную і вячэрнюю формы навучання ў першую чаргу па конкурсе залічваюцца абітурыенты, якія маюць сярэднюю спецыяльную ці прафесійна-тэхнічную адукацыю або працуюць не менш як 6 месяцаў і паступаюць на адпаведныя ці роднасныя спецыяльнасці, вызначаныя ВНУ.

Іншыя асобы, якія маюць аднолькавы ці вышэйшы бал, залічваюцца ў межах 20 працэнтаў ад кантрольных лічбаў прыёму па дадзенай спецыяльнасці (спецыялізацыі).

18. У тэрмін да 15 сакавіка навучальныя ўстановы распрацоўваюць Парадак прыёму ВНУ, які не павінен супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь, Правілам прыёму ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2001 год, узгадняюць яго з органамі дзяржаўнага кіравання па падпарадкаванні і зацвярджаюць у Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь.

19. ВНУ пры прыёме абавязаны забяспечыць захаванне правоў грамадзян на адукацыю, якія прадугледжаны заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, галоснасць і адкрытасць работы прыёмных камісій, аб'ектыўнасць ацэнкі ведаў, здольнасцей і схільнасцей абітурыентаў, а таксама своечасова знаёміць абітурыентаў з Парадкам прыёму ў ВНУ, патрабаваннямі да ўступных іспытаў, узроўнем складанасці экзаменацыйных заданняў уступных іспытаў у адпаведнасці са спецыяльнасцямі, парадкам падачы і разгляду апеляцый, рашэннямі прыёмнай камісіі.

20. Усе іншыя пытанні, звязаныя з прыёмам, якія не адлюстраваны ў Правілах прыёму ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2001 год, канчаткова вырашаюцца прыёмнымі камісіямі ВНУ.

21. Кантроль за правядзеннем прыёму ў ВНУ каардынуе Дзяржаўная камісія, якая прызначаецца ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам.

## Асаблівасці прыёму ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2001 год

***На падставе праведзенага аналізу вынікаў прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы ў 2000 годзе, а таксама прапаноў і заўваг Дзяржаўнай камісіі па кантролі за ходам уступных экзаменаў, вынікаў абмеркавання дадзенага пытання на нарадзе ў Камітэце дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, на Прэзідыуме Савета рэктараў і на пашыраным пасяджэнні калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь былі выпрацаваны канкрэтныя прапановы па ўдасканаленні прыёму ў ВНУ на 2001 год. Гэтыя прапановы пакладзены ў аснову адпаведных змяненняў у Правілах прыёму ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2001 год. Змяненні спрыяюць фарміраванню студэнцкага кантынгенту дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі з ліку найбольш таленавітай і падрыхтаванай моладзі пры захаванні роўных правоў і магчымасцяў доступу да дзяржаўнай адукацыі для ўсіх слаёў насельніцтва, стварэнню трывалага навуковага і інтэлектуальнага патэнцыялу краіны.***

Паводле зазначаных Правілаў прыёму ўсімі дзяржаўнымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі распрацаваны ўласны Парадак прыёму, па якім і будзе ажыццяўляцца набор студэнтаў.

У Правілы прыёму ўнесены наступныя змяненні і дапаўненні.

Улічваючы далучэнне Рэспублікі Таджыкістан да Пагаднення аб прадастаўленні роўных правоў грамадзянам дзяржаў — удзельніц Дагавора аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай галінах, прадугледжаны прыём грамадзян Рэспублікі Таджыкістан у вышэйшыя навучальныя ўстановы на аснове ўзаемна прызнавальных эквівалентнымі дакументаў аб адукацыі дзяржаўнага ўзору на агульных падставах з грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

Дзеля пашырэння правоў абітурыентаў у выбары навучальнай установы і спецыяльнасці ўпершыню дазволена абітурыентам адначасова паступаць у некалькі ВНУ (па арыгіналах дакумента аб адукацыі і сертыфіката цэнтралізаванага тэсціравання, а таксама па натарыяльна завераных копіях ці ксеракопіях). Пры гэтым залічэнне ў студэнты будзе праводзіцца толькі сярод асоб, якія падалі ў прыёмную камісію арыгіналы дакументаў у вызначаныя вышэйшай навучальнай установай тэрміны.

Прадугледжана паступовае ўвядзенне ў структуру ўступных іспытаў экзамену па замежнай мове. У 2001 годзе ўступны экзамен па замежнай мове ўстаноўлены для спецыяльнасцяў паводле патрабаванняў адукацыйнага стандарту. З мэтай падтрымкі абітурыентаў — выпускнікоў сельскіх школ і школ, размешчаных на тэрыторыях, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, а таксама прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў сельскагаспадарчага профілю ім дазволена замест уступнага экзамену па замежнай мове здаваць уступны экзамен па беларускай ці рускай мове.

На спецыяльнасці, конкурс на якія ў мінулым годзе перавысіў сярэдні конкурс па рэспубліцы (2,7 на месца), устаноўлена патрабаванне па правядзенні ўступных экзаменаў па агульнаадукацыйных прадметах, як правіла, у пісьмовай форме.

Прадугледжваецца абавязковае інфармаванне абітурыентаў аб узроўні складанасці экзаменацыйных заданняў уступных іспытаў у адпаведнасці са спецыяльнасцямі (базавы ці профільны).

Разам з шасцібальнай сістэмай ацэнкі абітурыентаў прадугледжана эксперыментальная апрабацыя дзесяцібальнай сістэмы на асобныя спецыяльнасці (спецыялізацыі) пяці ВНУ: Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна, Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М.Машэрава, Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны, Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Прадугледжана правядзенне пісьмовых уступных экзаменаў па беларускай (рускай) мове і літаратуры па цэнтралізаваных заданнях у фіксаваныя дні, устаноўленыя Міністэрствам адукацыі.

Вызначана, што залічэнне на ўсе спецыяльнасці, акрамя спецыяльнасцяў, па якіх ажыццяўляецца набор на мэтавую падрыхтоўку спецыялістаў, будзе праводзіцца на ўмовах раздзельнага конкурсу сярод выпускнікоў гарадскіх і сельскіх школ прапарцыянальна пададзеным заявам.

Дзеля падтрымкі сельскай моладзі прынята рашэнне пры прыёме на спецыяльнасці сельскагаспадарчага профілю абітурыентаў, якія не маюць мэтавых накіраванняў, залічваць на ўмовах раздзельнага конкурсу сярод выпускнікоў гарадскіх і сельскіх школ.

Пры прыёме на спецыяльнасці тэхнічнага, сельскагаспадарчага, ваеннага профіляў усе ВНУ абавязаны залічваць вынікі цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы, фізіцы, беларускай і рускай мовах паводле пададзеных сертыфікатаў. Прыёмным камісіям дазволена пашырыць пералік вышэйназваных спецыяльнасцяў.

Сумешчаныя выпускныя-ўступныя экзамены дазволена здаваць толькі абітурыентам, якія прайшлі даінстытуцкую падрыхтоўку і адносяцца да ліку тых, хто пастаянна жыве ў сельскіх населеных пунктах ці на тэрыторыях, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, і хто скончыў агульнаадукацыйныя навучальныя ўстановы, размешчаныя ў гэтых населеных пунктах. З вынікамі сумешчаных экзаменаў яны могуць удзельнічаць у агульным конкурсе.

Парадак залічэння медалістаў і выпускнікоў-выдатнікаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў вызначаецца ВНУ.

Пераможцы міжнародных і рэспубліканскіх (дыплом I ступені) прадметных алімпіяд школьнікаў, навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных устаноў могуць залічвацца без уступных іспытаў пры паступленні на адпаведныя спецыяльнасці, што вызначаюцца ВНУ. Пералічаныя асобы, якія паступаюць на іншыя спецыяльнасці, а таксама пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд (дыпломы II і III ступені) вызваляюцца ад уступнага экзамену па адпаведным прадмеце з выстаўленнем адзнакі "5". Парадак залічэння пераможцаў іншых рэспубліканскіх алімпіяд, турніраў і конкурсаў, а таксама абласных алімпіяд і інстытуцкіх алімпіяд вызначаюць прыёмныя камісіі.

Прыём на мэтавую падрыхтоўку спецыялістаў будзе ажыццяўляцца згодна з адпаведным Палажэннем, зацверджаным Пастановамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28.03.2000 г. №406 і ад 27.02.2001 г. №269.

Лічым, што ўнесеныя змяненні ў "Правілы прыёму ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2001 г." будуць спрыяць далейшаму забеспячэнню абітурыентам роўных магчымасцяў для паступлення ў дзяржаўныя ВНУ, абароне іх законных правоў на атрыманне бясплатнай вышэйшай адукацыі.

**Пётр КУХАРЧЫК,**
**намеснік міністра адукацыі.**

